**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 51 (819) 17 снежня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by
# Вольнае Глыбокае



Зіма – як вясна!


Фота svistanet.com



ISSN 2077-8023





## У Браславе ў ІП канфіскавана буйная партыя піратэхнікі

У адным з гандлёвых павільёнаў Браслава супрацоўнікамі ААПП і ГБЭП мясцовага РАУС выяўлена і канфіскавана 5500 піратэхнічных вырабаў.

Піратэхніка, якая належыць індывідуальнаму прадпрымальніку – жыхарцы Пастаў – захоўвалася ў парушэнне дзейснага заканадаўства, паведамляе прэс-служба МУС.

***ННВ***

### Гарадоцкі раён

# На мяжы банкротства

■ Станіслаў Раманчук.

**Не так даўно дасведчаныя людзі толькі дзівіліся, чаму гаротны Гарадоцкі раён выбралі месцам правядзення пампезных “Дажынак”, бо аддача хлебнай нівы ў паўночным рэгіёне малая.**

Аднак фестываль-кірмаш там летась правялі, паўтары тысячы гасцей сабралі, а былы глава вобласці А. Косінец паставіў задачу пабудаваць у райцэнтры за кароткія тэрміны яшчэ і Лядовы палац на 800 месцаў з басейнам. Сёлета ж у Гарадку абстаноўка ўжо іншая, бо каля 180 работнікаў мясцовага райаграпрамснаба пісьмова папярэдзілі, што іх арганізацыя можа стаць банкротам, а людзі тады будуць звольнены. На сярэдзіну снежня разгляд гэтага пытання быў прызначаны ў Эканамічным судзе Віцебскай вобласці. Справы ў мясцовым РАПС сталі настолькі дрэнныя, што на працягу года ў ім памянялася нават пяць дырэктараў, а даўгі калектыву разам з неаплачанымі крэдытамі наблізіліся да 150 мільярдаў рублёў. Фактычна – гэта ўжо непад’ёмная сума, бо на кожнага працаўніка запазычанасць складае па 681 млн. рублёў. Даўгі арганізацыі толькі растуць, а невысокія заробкі затрымліваюцца, пагалоўе статку зменшылася ў 2 разы. Такая агонія не можа працягвацца бясконца, і жыве толькі невялікая надзея на тое, што суд прадаставіць райаграпрамснабу шанс уцалець, аб’явіць яму санацыю. Хутчэй усяго, РАПС чакае ліквідацыя, перадача тэхнікі і дзеючых ферм птушкафабрыцы і яшчэ дзвюм гаспадаркам раёна, якія застаюцца на плыву. У любым выпадку, работнікаў гэтай арганізацыі чакаюць сур’ёзныя жыццёвыя змены.

### Пастаўскі раён

# Цяжкі груз даўгоў

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад гараджан, у многіх працаўнікоў сельскай гаспадаркі напрыканцы года настрой быў зусім маркотны.**

Вось і ў Пастаўскім раёне за некалькі тыдняў да калядных і навагодніх святаў яшчэ не выплацілі вяскоўцам звыш 2 млрд. рублёў заробкаў за працу ў кастрычніку. Амаль палова даўгоў прыходзілася на адну з буйнейшых у Беларусі гаспадарак “Камайскі”, у якой адных сельгасугоддзяў 13 тысяч гектараў. У недалёкім мінулым яе ў ліку 9 на Віцебшчыне ўключылі ў лік базавых 60 айчынных гаспадарак па дасягненню найвышэйшага ўзроўню гаспадарання на зямлі. Аднак, як пакінуў яе шматгадовы кіраўнік, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларусі Баляслаў Шылько, то пачалася кадравая чахарда, а справы ў пяці аддзяленнях, далучаных дабітых калгасаў паступова сталі толькі пагаршацца. У “Камайскага”, як і шэрагу іншых гаспадарак краю, даўгоў зараз на дзя325 млрд. рублёў, а заробкі рэгулярна затрымліваюцца і, да таго ж, зусім мізэрныя. Аднак і атрымаць своечасова мільёндругі грошай працаўніку ў гаротных гаспадарках – цяпер праблема. У той самы час у прамысловасці раёна і іншых сферах запазычанасцяў па зарплаце няма. На мясцовым малочным заводзе заробкі ў працаўнікоў наблізіліся да 8 млн. рублёў. Работнікі газавай гаспадаркі зарабляюць у раёне па 9 млн, а электрыкі Пастаўскага РЭС - нават болей. Дарэчы, у пастаўчан сітуацыя на вёсцы – яшчэ не самая горшая, бо ў суседнім Глыбоцкім раёне ў пачатку снежня даўгі па зарплаце ў верасні-кастрычніку складалі 6,3 млрд. рублёў.

### Полацкі раён

# У інтарэсах пакупнікоў

■ Чэслаў Якубовіч.

**Другі год запар наша краіна далучаецца да сусветнай практыкі арганізацыі масавых распрадаж тавараў за кошт узгодненых з вытворцамі змен адпускных цэн і зніжэння гандлёвых надбавак.**

Сёлета ў Полацкім раёне неадназарова ў буйных гарадах-суседзях, а таксама ў магазінах аграгарадкоў ужо праводзілася рэспубліканская акцыя “Адзіны дзень скідак” напрыканцы зімы і 29 жніўня. Падчас чарговага такога шопінгу перад навагоднімі святамі асабліва ўсплеск пакупніцкай актыўнасці назіраўся ў адным з самых маладых і багатых гарадоў Беларусі – Наваполацку. У папулярным “Доме гандлю” нафтаграда на апошняй акцыі дзённая выручка вырасла нават у 8 разоў. Асабліва актыўна гараджане і госці горада раскуплялі днямі бытавую тэхніку і адзенне з абуткам, бо тавары лёгкай прамысловасці неўзабаве могуць знікнуць на рынках у многіх пакупнікоў без сертыфікатаў якасці. У гэтым буйным гандлёвым цэнтры тавары са скідкамі прадаваліся яшчэ паўмесяца, такія льготы даюць тут і іменіннікам, пажылым людзям. Дарэчы, у наваполачан зараз заробкі – самыя высокія ў вобласці, чаго не скажаш пра суседні старажытны Полацк. Там даходы ў людзей больш сціплыя, да таго ж у гэтым раёне ў пачатку снежня не выплацілі своечасова зарплату 15 мясцовых гаспадарак, будаўнічых арганізацый і завод “Тэхналіт Полацк” са сваім філіялам “Проммашрамонт”. Таму не дзіўна, што вакол полацкіх гандлёвых цэнтраў падчас акцыі асаблівага ажыятажу і чэргаў не назіралася.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 17.12.15 | | | | Пятніца 18.12.15 | | | | Субота 19.12.15 | | | | Нядзеля 20.12.15 | | | | Пан. 21.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | -3 | -1 | 0 | -1 | 0 | +3 | +5 | +6 | +5 | +7 | +7 | +4 | +5 | +9 | +10 | +6 | +6 | +7 |
| Ціск | 755 | 754 | 751 | 749 | 746 | 745 | 744 | 744 | 743 | 742 | 740 | 744 | 747 | 746 | 744 | 746 | 745 | 743 | 743 |
| Вецер м/сек | 5 | 2 | 4 | 4 | 4 | 2 | 4 | 5 | 6 | 7 | 5 | 4 | 3 | 4 | 5 | 5 | 5 | 6 | 6 |
| | З | З | Ю | Ю | Ю | Ю-З | Ю | Ю-З | З | З | З | З | З | Ю-З | З | З | Ю-З | З | З |
| Вільготнасць | 88 | 86 | 78 | 94 | 98 | 98 | 95 | 98 | 94 | 95 | 91 | 94 | 95 | 97 | 91 | 95 | 92 | 94 | 84 |

### Аб самым надзёным

# АЎТО СТАНУЦЬ “БЕЛАРУСКІМІ НАРОДНЫМІ”, АЛЕ У ІХ МОГУЦЬ БЫЦЬ ПРАБЛЕМЫ НА ЗНЕШНІХ РЫНКАХ ЗБЫТУ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Самая вялікая небяспека, што Расія з Казахстанам могуць увесці экспартныя квоты і не будуць лічыць гэтыя аўтамабілі Geely машынамі беларускай вытворчасці з ўзроўнем лакалізацыі іх вытворчасці меней 50 %.**

Ужо некалькі разоў у нашай краіне рабіліся спробы наладзіць уласную вытворчасць легкавых аўтамабіляў. Як стала нядаўна вядома, такая ідэя была даўняй марай главы Беларусі А. Лукашэнкі, пра што ён сам прызнаўся, калі праводзіў рабочую нараду па пытанню рэалізацыі інвестыцыйнага праекта па выпуску легкавушак пад брэндам Geely на новым беларуска-кітайскім аўтазаводзе “БелДжы”. Прэзідэнт шчыра сказаў, што “моя мечта – чтобы мы имели не только производство большегрузных автомобилей, грузовых, средней грузоподъёмности, тракторов, но и легковых автомобилей, близких к народному, чтобы наша страна могла обеспечивать потребности юридических и физических лиц в собственных легковых автомобилях».

І такі праект ужо ажыццяўляецца, новы аўтазавод пачаў узводзіцца не так далёка ад беларускай сталіцы з дапамогай інвестыцый з Кітая, на аснове іх тэхналогій. Гэта будзе аўтазавод поўнага цыклу з аб’ёмам выпуску да 60 тысяч легкавушак у год пасля запуску першай чаргі і з выхадам да 120 тысяч машын, калі будаўніцтва прадпрыемства поўнасцю завяршыцца. Яго праектуе і з’яўляецца генпадрадчыкам будоўлі кітайская кампанія “Сіцік”.У спецыялістаў няма сумненняў, што беларусы неўзабаве атрымаюць свой “народны аўтамабіль”. У параўнанні з іншымі мадэлямі аўто, кітайскія машыны дастаткова танныя і канкурэнтназдольныя па цане і, вельмі верагодна, што многія беларусы стануць болей перасаджвацца на такія аўтамабілі, асабліва работнікі бюджэтнай сферы.

Да таго ж, як было заяўлена, кітайцы пагадзіліся, што гэтыя аўто беларусы могуць самі ўдасканальваць, маючы досвед зборкі і вытворчасці грузавых аўтамабіляў і кампанентаў для легкавушак. На прайшоўшай нарадзе правільна было ўзнята галоўнае пытанне, ці ўспрыме знешні аўтарынак наш беларуска-кітайскі аўтамабіль, ці акупяцца своечасова буйныя ўкладанні ў гэты амбіцыйны праект? Як паказвае практыка, каб новы аўтазавод у Смалявіцкім раёне сябе акупляў і быў рэнтабельным, ён павінен штогод выпускаць і прадаваць да паўсотні тысяч легкавушак. А. Лукашэнка ў сваёй манеры паабяцаў, што ён прымусіць калектыў выпускаць “самые качественные автомобили”.

У адпаведнасці з заяўленымі планамі, ужо зімой наступнага 2016 года на новы завод пачнуцца пастаўкі асноўнага абсталявання і яго мантаж, а першую чаргу павінны запусціць у эксплуатацыю ўжо дзесьці праз год. Аб’ём кітайскіх інвестыцый чакаецца ў памерах 318 млн. долараў, а наш бок павінен будзе ўкласці яшчэ каля 320 млрд. рублёў на патрэбную інфраструктуру, узвядзенне дарог, чыгуначнай веткі, стварэнне сетак вода-, газа- і электразабеспячэння, каналізацыі. Калі запусцяць першую чаргу новага аўтазавода, то там будзе працаваць каля 1300 рабочых і служачых, а ў далейшым штат вырасце да двух тысяч чалавек.

А вось далейшыя перспектывы беларуска-кітайскіх легкавушак не такія ўжо спрыяльныя, як бы ўсім нам ні хацелася. На сусветным аўтарынку – канкурэнцыя цяпер звышвострая, што ўжо адчулі апошнім часам дрэнным бокам нашы аўтавытворцы Мінскі аўтамабільны завод і БелАЗ у Жодзіне. Існуе вялікая пагроза і верагоднасць таго, што гэты праект можа напаткаць горкі лёс айчынных цэментных заводаў і прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі пасля праведзенай там мадэрнізацыі. Самая вялікая небяспека, што Расія з Казахстанам могуць увесці экспартныя квоты і не будуць лічыць гэтыя аўтамабілі Geely машынамі беларускай вытворчасці з ўзроўнем лакалізацыі іх вытворчасці меней 50 %.

Цяпер зразумела, што новы аўтазавод зможа поўнасцю забяспечыць патрэбнасці ўнутранага рынку на легкавыя аўтамабілі. Ці зможам мы іх прадаваць у патрэбных аб’ёмах яшчэ на прасторах СНД, пытанне застаецца, паколькі сёлета на асноўным рынку ў Расіі аб’ёмы прадаж расіянам легкавушак упалі болей, чым на трэць, рускія людзі працягваюць імкліва бяднець. Сярод расіян па папулярнасці беларуска-кітайскія легкавыя машыны толькі на 25-м месцы, у гэтым годзе на расійскіх прасторах іх удалося прадаць за 10 месяцаў толькі 9483 штукі. Дзеючы аўтазавод “БелДжы” у Барысаве да таго ж мае вялікія цяжкасці са збытам і на ўнутраным рынку, прадаючы цяпер спажыўцам толькі да 100 машын у месяц.

Яшчэ адна праблема, што і беларусы апошнім часам бяднеюць. Сярэднемесячныя заробкі ўпалі да 370 долараў, а ў глыбінцы зарабляюць і таго меней. Ад гэтага фактару нам нікуды не дзецца, бо ў айчыннай эканоміцы крызіс і рэцэсія (спад вытворчасці), попыт на беларускія тавары падае як унутры краіны, так і за яе межамі. І гэта – аб’ектыўная рэальнасць з улікам зніжэння рэальных даходаў насельніцтва. Калі толькі беларусы стануць больш заможнымі і багатымі, тады і з’явіцца болей суайчыннікаў, якія пажадаюць набыць не толькі “народны аўтамабіль”, альбо больш дарагую, вядомую марку. Рашаючае рашэнне, на чым ездзіць, было і будзе за канкрэтным спажыўцом і пакупніком.

## Дзень за днём

**З пачатку года дзяржаўны доўг Беларусі вырас больш чым на 50 %, а валютная выручка знізілася на 9 млрд. USD. Спецыялісты спрагназавалі далейшую стагнацыю ў краіне і ў 2016 годзе. У снежні для беларусаў істотна падаражэлі газ, свет і ацяпленне, а іх заробкі знізіліся да 370 $ (узровень 2007 года). Расія ўзмацніла кантроль за ўвозам з Беларусі садавіны і гародніны. Па большасці тарыфных планаў павысіліся для абанентаў паслугі МТС і Велкома. А. Лукашэнка паабяцаў стварыць народны аўтамабіль "БелДжы", а сіноптыкі прагназуюць зіму ў Беларусі зноў цёплай.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прафесар Гордан Літтоў распрацаваў прэпарат - метфармін, які можа замаруджваць працэсы старэння чалавечага арганізму, яго выпрабаванні на людзях пачнуцца ў 2016 годзе.

**Турцыя.** Прэм'ер-міністр Ахмет Давутаглу пацвердзіў, што працэс далучэння краіны да Еўрасаюза паскорыцца, ЕС выдзеліў туркам 3 мільярда еўра на дапамогу ўцекачам з Сірыі.

**Бразілія.** Нацыянальны кангрэс краіны пачаў працэдуру імпічменту прэзідэнта Дылмы Русеф, яе абвінавачваюць у карупцыі і парушэннях падатковага заканадаўства.

**Англія.** Са згоды парламента ваенная авіцыя краіны пачала наносіць удары па пазіцыях баевікоў "Ісламскай дзяржавы" і на тэрыторыі Сірыі, раней яна бамбіла іх у Іраку.

**Германія.** Бундэстаг зацвердзіў правядзенне на працягу года сіламі нямецкай арміі ў колькасці 1200 салдат і афіцэраў ваеннай аперацыі ў Сірыі па падтрымцы сіл кааліцыі.

**Расія.** Прэс-служба Цэнтрабанка РФ пацвердзіла, што на нявызначаны тэрмін спынена праца па ўвядзенні адзінай валюты на тэрыторыі Еўразійскага эканамічнага саюза.

**Сірыя.** Заснавальнік агенцтва навін SMART Чамсі Саркіс заявіў, што рускія міжволі сталі ворагамі не толькі большасці сірыйцаў, але і арабскага свету, бо краіна амаль уся знішчана

**Украіна.** Сакратар Савета нацыянальнай бяспекі і абароны А. Турчынаў папярэдзіў, што расійскі рэжым рыхтуецца да сур'ёзнай і маштабнай глабальнай вайны і не збіраецца спыняцца.

**Польшча.** Новы глава ўрада Беата Шыдла заявіла, што палякі не пагодзяцца на прыняцце новых квот па прыёму мігрантаў, крызіс трэба спрабаваць вырашыць па-за межамі Еўрапейскай садружнасці.

**Швейцарыя.** Расійскі палітык Г. Каспараў заявіў, што ў Пуціна пасля захопу Крыма быў варыянт анексіі Беларусі, але гэты дыктатар убачыў перспектыву і палез у Сірыю.

**Чарнагорыя.** НАТА запрасіла краіну ўступіць у альянс у якасці 29-га члена, Крэмль адразу ж прыгразіў чарнагорцам разарваць усе сувязі і прыняць адэкватныя меры.

**Расія.** У Маскве знайшоў вечны спакой на 89-м годзе жыцця народны артыст СССР, кінарэжысёр Э. Разанаў, які адкрыта ненавідзеў існуючыя парадкі пуцінскай дзяржавы.

**Украіна.** У рамках праводзімай дэкамунізацыі СБУ адкрыла свабодны доступ грамадзян да дакументаў аб рэпрэсіях і іншых злачынных дзеяннях савецкіх спецслужб КДБ СССР.

**Польшча.** З пачатку года польскі ВУП вырас яшчэ на 3,7 %, эмбарга Расіі на палякаў ніяк не паўплывала, цэны на паслугі і спажывецкія тавары знізіліся нават на 0,5 %.

**Швецыя.** Ніводзін беларускі тэлеканал не транслiраваў уручэнне Святлане Алексіевіч Нобелеўскай прэміі па літаратуры, гэту падзею беларусы глядзелі ў інтэрнэце на YouTube.

*Служба інфармацыі «ВГ»(па звестках інфармагенств і інтэрнэт-рэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларусам трэба паціхеньку, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, адграбаць у бок ад Расіі з-за яе небяспечнай і канфліктнай знешняй палітыкі, радуе пазіцыя нейтралітэта РБ.

**Гомель.** З-за махінацый з мясам затрымалі каля 10 чалавек, сярод іх першага намесніка главы вобласці А. Максіменку і дырэктара мясцовага мясакамбіната Р. Стэфановіча.

**Мінск.** Сустаршыня Беларускага саюза жанчын А. Морава заявіла, што трохгадовы дэкрэтны аплочваемы адпачынак – гэта марнатраўства грошай, нідзе няма больш такога.

**Б а р а н а в і ч ы .** Станкабудаўнічы завод, філіял завода бытавой тэхнікі ЗАТ "Атлант" спыніў сваю працу на два тыдні, заробкі ў рабочых упалі да 3-4,5 млн. рублёў у месяц.

**Гродна.** Адно з буйнейшых у краіне ААТ "Гродна-Азот" найбольш, амаль на чвэрць (на 23,2%) скараціла штат персаналу, з ранейшых 10,5 тысяч засталося 8059 працаўнікоў.

**Мінск.** А. Лукашэнка зноў заявіў, што гатовы павысіць пенсійны ўзрост, але ён пойдзе на такі крок, толькі калі параіцца з народам, бо Беларусь зацікаўлена ў крэдыце МВФ.

**Рагачоў.** Рассельгаснагляд арыштаваў чарговыя партыі беларускіх сыроў мясцовага МКК і Навагрудскага малзавода з-за нібыта павышанага ўтрымання ў іх кансервантаў.

**Мінск.** Аглядальнік "belrynok.by" І. Крыловіч пацвердзіла, што А. Лукашэнка можа пайсці толькі на некаторыя саступкі МВФ у сацсферы і макраэканоміцы, але не на рэформы.

**Слуцк.** Расія забараніла пастаўкі на рынак РФ нібыта небяспечнай прадукцыі з мясцовага сыраробнага камбіната і яшчэ з 4-х беларускіх малзаводаў Смаргоні, Рагачова і іншых.

**Мінск.** Пасля перапынку МТЗ знайшоў буйных пакупнікоў на свае трактары, партыю з 450 адзінак тэхнікі коштам 12,9 млн. еўра адгрузілі ў порце Клайпеды для Кубы.

**Магілёў.** На тэрыторыі вобласці выявілі сёлета яшчэ 134 новых ВІЧ-інфіцыраваных, з іх большасць заразіліся палавым шляхам, у рэгіёне ўжо 177 чалавек памерлі ад СНІДу.

**Мінск.** Навуковы супрацоўнік эканамічнадаследчагага цэнтра BEROS Д. Крук папярэдзіў, што з-за адсутнасці рэформ у Беларусі эканамічнага росту не будзе ў будучым.

**Бабруйск.** Паколькі Турцыю падтрымала НАТО, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, а Расію – ніхто, то Крамлю не з рукі сварыцца з Беларуссю з-за размяшчэння тут авіяцыйнай базы.

**Мядзел.** З-за пакінутага без нагляду абагравальніка паблізу райцэнтра ў вёсцы Осава загарэўся зерне-склад, агонь знішчыў дах і пашкодзіў 39 тон насення зерневых культур.

**Маладзечна.** У гарадскім Палацы культуры прайшоў юбілейны канцэрт з нагоды 65-годдзя заслужанага артыста Беларусі, экссаліста "Песняроў" Анатоля Кашапарава.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфарм–агенств і інтэрнэт-рэсурсаў).*

## Асобы, якія жывуць не па сродках, будуць выплачваць павышаны падаходны падатак




■ БелаПАН

**З фізічных асоб, у дачыненні да якіх будзе ўстаноўлена перавышэнне фактычных расходаў над афіцыйнымі даходамі, з 2016 года будзе збірацца падаходны падатак па стаўцы 16%.**

«У дачыненні да фізасоб устанаўліваецца стаўка падаходнага падатку ў памеры 16% па даходах, што вылічваюцца падатковым органам, зыходзячы з сум перавышэння расходаў грамадзяніна над даходамі», – паведаміла намеснік міністра па падатках і зборах Эла Сяліцкая, выступаючы 11 снежня на канферэнцыі «Актуальныя пытанні падаткаабкладання ў святле зменаў падатковага заканадаўства 2016 года».

Яна растлумачыла, што прадпісанне аб уплаце падаходнага падатку ў павышаным памеры можа быць вынесеная па выніках праверкі падатковым органам дэкларацыі грамадзян аб даходах і маёмасці.

«Улічваючы, што такія даходы фізічная асоба атрымлівае, як правіла, ад ажыццяўлення незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, прапанавана ўстанавіць стаўку, якая будзе аналагічная са стаўкай падаходнага падатку, што прымяняецца ў дачыненні да даходаў, атрыманых ад прадпрымальніцкай дзейнасці», — сказала Сяліцкая.

З 2015 года для фізічных асоб прымяняецца адзіная стаўка падаходнага падатку – 13%, за выключэннем некаторых выпадкаў. У прыватнасці, з даходаў, атрыманых ад ажыццяўлення прадпрымальніцкай і прыватнай натарыяльнай дзейнасці, фізічныя асобы абавязаныя выплачваць падаходны падатак па стаўцы 16%.

З 2016 года падатковыя органы плануюць зрабіць больш жорсткімі падыходы не толькі ў дачыненні да фізічных асоб, чые фактычныя расходы перавышаюць афіцыйныя даходы, але і ў дачыненні да асоб, якія не выплачваюць падаходны падатак пры здачы жылля ўнаймы.

«Падатковыя органы будуць спаганяць у пяціразовым памеры сумы падаходнага падатку з даходаў, атрыманых грамадзянамі пры здачы жылля ўнаймы без уплаты падаходнага падатку ў фіксаваных сумах», – паведаміла Сяліцкая.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На пасяджэнні аблвыканкама пракурор вобласці Г. Дыско паведаміў, што сёлета на Віцебшчыне ўпершыню за 10 апошніх гадоў адзначаны рост цяжкіх злачынстваў.

**Чашнікі.** Новы энергаблок Лукомльскай ГРЭС з сучаснай парагазавай установкай за год эксплуатацыі дапамог станцыі сэканоміць да 170 тысяч тон умоўнага паліва.

**Полацк.** Па фактах незаконнай міграцыі, выяўленых паблізу граніц Латвіі і Літвы воінамі Полацкага пагранатрада, узбуджана ўжо 10 крымінальных спраў, калі летась іх было 2.

**Сянно.** Супрацоўнікі Дэпартамента аховы МУС выратавалі жыццё пажылому чалавеку, у якога на вуліцы спынілася сэрца, да прыезду медыкаў яны правялі патрэбны сэрцу масаж.

**Віцебск.** З-за аварыі вечарам у горадзе адключыліся на некалькі гадзін 3 кабельныя электралініі і 40 трансфарматарных падстанцый, свет гараджанам далі толькі да 22.00.

**Ушачы.** Дэлегацыі з 11 раёнаў вобласці, з гарадоў Віцебска і Навапалацка прынялі ўдзел у рэгіянальных Калядных чытаннях, арганізаваных П о л а ц к а - Г л ы б о ц к а й епархіяй.

**Орша.** Рэспубліканскі дарожны фонд выдзеліў 25 мільярдаў рублёў на капітальны рамонт маста праз Днепр у горадзе, а таксама на рэканструкцыю мясцовых дарог рэгіёна.

**Новалукомль.** У горадзе энергетыкаў узвялі яшчэ адзін 60-кватэрны жылы дом, але работы па добраўпарадкаванню і асфальтаванню вакол тэрыторыі перанеслі на вясну.

**Докшыцы.** У мясцовым водна-аздараўленчым цэнтры прадпрымальнік з Глыбоччыны Алёна Грандберг адкрыла салон прыгажосці "Кэтрын" з поўным цыклам паслуг.

**Глыбокае.** У гарадскім пасёлку Падсвілле прайшлі ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя мясцовай СШ, яе скончылі амаль 2600 выпускнікоў, 152 медалісты, шмат слаўных людзей і генерал.

**Лёзна.** Выпускны клас СШ №1 раённага цэнтра прызналі лепшым сярод экалагічных атрадаў Беларусі па выніках рэспубліканскага конкурса "Працоўнае лета-2015" за догляд лесу.

**Паставы.** Настаўнік гімназіі Ігар Пракаповіч стаў лаўрэатам абласной літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча за 2015 год у намінацыі "проза", ён аўтар 40 розных выданняў.

**Віцебск.** У мясцовым заапарку напярэдадні наступлення года Вогненнай Малпы ў сям'і яванскіх макак Люсі і Васі нарадзіўся трэці па ліку малыш, у іх ужо было двое дзетак.

**Орша.** У мясцовым музеі У. Караткевіча з нагоды 85-годдзя літаратара адбылося ўрачыстае гашэнне маркіраванага канверта з ягонай выявай памятным спецштэмпелем.

**Браслаў.** У спартыўнай зале мясцовай ДЮСШ прайшла спартакіяда сярод сельскіх жыхароў раёна па пяці відах спорту, яе выйграла зноў каманда Відзаўскага сельскага савета.

*Служба інфармацыі "ВГ" ( па звестках інфармагенств і інтэрнэт-рэсурсаў).*

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Інспектары не толькі ловяць браканьераў, але і робяць падарункі дзецям!

Вось і скончаецца 2015 год, які прынёс шмат радасці, праблемаў і клопатаў. Спадзяемся, што ўсе клопаты былі толькі прыемнымі. Супрацоўнікам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі можна падвесці папярэднія вынікі працы, аднак, праца па захаванні прыродных багаццяў нашай дзяржавы будзе працягвацца, штодня і кругласутачна.

Вельмі хацелася б верыць, што праца міжрайінспекцыі ў годзе, які сыходзіць, была не марнай і прынесла карысць грамадзянам і дзяржаве, нам атрымалася захаваць прыгажосць прыроды, колькасць дзікіх жывёл, чысціню нашых лясоў і азёр.

У годзе, які сыходзіць, супрацоўнікі міжрайінспекцыі не толькі арганізоўвалі сваю працу па спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, выяўлялі рыбных, лясных і паляўнічых браканьераў, але шмат увагі надавалі прававому выхаванню нашых грамадзян. Толькі ў розных сродках масавай інфармацыі апублікавана больш за 120 артыкулаў і нататак, са школьнікамі раёна праведзеныя адкрытыя ўрокі па прыродаахоўнай тэматыцы, праводзіліся выступы ў працоўных калектывах. Калектыў міжрайінспекцыі ўдзельнічаў у розных акцыях, якія праводзяцца ў раёне, суботніках, па ўборцы берагавых ліній вадаёмаў раёна.

11 снежня 2015 года супрацоўнікі міжрайінспекцыі прынялі ўдзел у акцыі "Нашы дзеці", падчас якой набыты і перададзеныя ў ДУА "Сацыяльна-педагагічны цэнтр Глыбоцкага раёна" мыйныя, гаспадарчыя прыналежнасці на суму 1 000 000 рублёў.

На тэрыторыі раёна арганізаваны елкавыя кірмашы, заклікаем усіх грамадзян не парушаць прыродаахоўнае заканадаўства і законна набываць навагодніх прыгажунь на елкавых кірмашах.

У перадпачатку надыходзячых Навагодніх святаў калектыў міжрайінспекцыі хоча павіншаваць усіх жыхароў раёна з надыходзячымі Калядамі і Новым годам, пажадаць усім нам быць дабрэй, любіць і захоўваць прыгажосць нашага краю.

Пра парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон "гарачай лініі" Глыбоцкай міжрайінспекцыі, кругласутачна: 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 645-66-78.

# Калі вы праваліліся на лёдзе – не панікуйце!

А.І.Гігола,
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

Лёдастаў – гэта час, калі сажалкі, рэкі, азёры пакрываюцца лёдам. Можна скараціць шлях, пагуляць на лёдзе і, вядома, паспяхова парыбачыць. Але акрамя радасці, навізны адчуванняў перыяд лёдастава нясе з сабой і небяспеку. Прычым, часцей за ўсё надзвычайных сітуацый адбываецца з рыбакамі. Самыя небяспечныя месяцы – снежань і сакавік, гэта значыць, першы і апошні лёд, калі ён найболей тонкі і падступны. Неабходна строга выконваць меры бяспекі на лёдзе, асабліва ў перыяд лёдастаў:

● памятайце, што бяспечны пераход па лёдзе магчымы пры яго таўшчыні не меней 7 см, прычым людзі павінны ісці на адлегласці 5-6 м адзін ад аднаго. Падчас руху па лёдзе варта абыходзіць небяспечныя месцы і ўчасткі, пакрытыя тоўстым пластом снега. Асаблівую асцярожнасць трэба выяўляць у тых месцах, дзе хуткая плынь, пад мастамі, у месцах, дзе ўмерзлі кусты, чароты і якія-небудзь старонняя прадметы, бо ўзрастае небяспека праваліцца. Неабходна абыходзіць участкі вадаёмаў, куды сцякаюць цёплая вада ці прамысловыя адыходы прадпрыемстваў, дзе выходзяць грунтавыя воды і маюцца прамыіны;

Калі вы праваліліся ў халодную ваду:

● не панікуйце, не рабіце рэзкіх рухаў, стабілізуйце дыханне; раскіньце рукі ў бакі і паспрабуйце ўчапіцца за беражок лёду, надаўшы целу гарызантальнае становішча па кірунку плыні; паспрабуйце асцярожна налегчы грудзьмі на край лёду і закінуць адну, а потым і другую ногі на лёд; калі лёд вытрымаў, перакочваючыся, павольна паўзіце да берага; паўзіце ў той бок – адкуль прыйшлі, бо лёд тут ужо праверены на трываласць. Калі патрэбна Ваша дапамога: узбройцеся любой доўгай палкай, дошкай, шастом ці вяроўкаю. Можна звязаць разам шалікі, рамяні ці адзежу; трэба паўзком, шырока расстаўляючы пры гэтым рукі і ногі і пхаючы перад сабой выратавальныя сродкі, асцярожна рухацца ў кірунку да палонкі; спыніцеся ад размешчанага ў вадзе чалавека ў некалькіх метрах, кіньце яму вяроўку, край адзежы, падайце палку ці шост; асцярожна выцягніце пацярпелага на лёд і разам паўзком выбірайцеся з небяспечнай зоны; паўзіце ў той бок – адкуль прыйшлі; дастаўце пацярпелага ў цёплае месца. Акажыце яму дапамогу; зніміце з яго мокрую адзежу, энергічна разатрыце цела (да пачырванення скуры) змочанай у спірце ці гарэлцы суконкай ці рукамі, напаіце пацярпелага гарачым чаем. Ні ў якім разе не давайце пацярпеламу алкаголь – у падобных выпадках гэта можа прывесці да смяротнага зыходу. **Пры надзвычайных сітуацыях тэлефануйце па тэлефоне – 101.**



■ А.Г. Абрамчык,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Штодня будуць праводзіцца рэйдавыя мерапрыемствы

Снежань – апошні месяц года. Ён прыносіць шмат клопатаў, асабліва з набліжэннем Навагодніх святаў, час падумаць пра набыццё навагодняй елкі.

Як і кожны год на тэрыторыі раёна будуць арганізаваны пераднавагоднія елкавыя кірмашы, на якіх і неабходна набываць елкі.

Але, нягледзячы на ўсе высілкі лясгасаў забяспечыць грамадзян навагоднімі елкамі па вельмі даступных коштах, усё яшчэ знаходзяцца ахвотнікі займець навагоднюю прыгажуню дарма, але, як вядома, "бясплатны сыр толькі ў пастцы". Супрацоўнікі міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян не здзяйсняць неабдуманых учынкаў і не парушаць лясное заканадаўства.

Паводле Пастановы Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2001 года №4, пункт 53:

"Нарыхтоўка навагодніх елак ажыццяўляецца":

● на адмыслова створаных плантацыях навагодніх елак;

● пры правядзенні рубак догляду ў лясах, з ліку дрэў вырубаемых у адпаведнасці з лесаводчымі патрабаваннямі;



● у парадку расчысткі трас, прасек, палос адводу, ліній электраперадач, на лесасеках галоўнага карыстання і суцэльных санітарных рубак, калі на дадзеных лесасеках падрост не падлягае захаванню".

Грамадзяне самастойна займацца нарыхтоўкай елак не маюць права. За незаконную парубку дрэў паводле арт. 15.22 Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб адміністрацыйных правапарушэннях" прадугледжваецца адміністрацыйная адказнасць ад 5 да 50 базавых велічынь, а на індывідуальных прадпрымальнікаў ад 20 да 200 базавых велічынь, таксама парушальнік аплачвае нанесеную шкоду.

Пры перавозцы елкі ва ўладальніка пры сабе павінна быць квітанцыя, якая пацвярджае законнасць яе набыцця.

У мэтах прадухілення незаконных парубак елак супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з працаўнікамі лясгасаў і міліцыі штодня будуць праводзіцца рэйдавыя мерапрыемствы, затрыманыя за парушэнні грамадзяне прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Каб ваш настрой не быў сапсаваны ў Навагоднія святы, рэкамендуем набываць елкі ў месцах іх законных продажаў, якія будуць арганізаваны ў шматлікіх населеных пунктах раёна і па даступных коштах.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 "тэлефон даверу", мабільных: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Касцёл святой Тройцы не абсталяваны сістэмай аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі

**У лістападзе месяцы інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі суб'ектаў. За выяўленыя парушэнні правілаў пажарнай бяспекі на дадзеных суб'ектах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты іх кіраўнікі і службовыя асобы.**

Так, пры праверцы **ААТ "Мосарлён"** высветлілася, што: на прадпрыемстве адсутнічае стэнд з інфармацыяй аб пажарнай бяспецы; будынкі, збудаванні і тэрыторыя не ў поўнай меры забяспечаны сродкамі пажаратушэння, спраўнай маланкаабаронай; вытворчы корпус не абсталяваны сістэмай пажаратушэння, склад – аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; у памяшканні майстэрні адсутнічае металічная скрыня для збору прамасленага рыззя; на вонкавым баку дзвярэй вытворчых і складскіх памяшканняў адсутнічаюць паказальнікі катэгорый па выбухапажарнай небяспецы і класа зоны па ПУЭ; працаўнікі, якія задзейнічаныя ў рэалізацыі плану эвакуацыі, незабяспечаны самаратавальнікамі; на прадпрыемстве не арганізавана сістэма навучання працаўнікоў па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; драўляныя будаўнічыя канструкцыі паддашкавых памяшканняў не апрацаваны вогнеабаронным саставам; не праводзяцца практычныя адпрацоўкі плану эвакуацыі; у складзе не пазначаны месцы захоўвання і праходы, адсутнічае план размяшчэння матэрыялаў.

**ПУП па аказанні паслуг "Дом прычоскі"** – будынак эксплуатуецца не па мэтавым прызначэнні (па праекце – жылы дом); у будынку адсутнічае аўтаматычная пажарная сігналізацыя; на шляхах эвакуацыі ўладкаваны выступы вышынёй больш 0,06 м (прыступка); эвакуацыйныя выйсці не пазначаны ў адпаведнасці з патрабаваннямі; адсутнічаюць самаратавальнікі; дапушчаецца загрувашчванне шляхоў эвакуацыі.

**Парафія святой Тройцы ў г. Глыбокае** – будынак касцёла не абсталяваны



**Аўтаматычны пажарны апавяшчальнік.**

сістэмай аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі; не арганізавана навучанне па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму.

**Аб'ект будаўніцтва "Дзіцячы сад на 200 месцаў г. Глыбокае, вул. Паўночная, 9а"** – асоба, якая правадзіць інструктаж аб мерах пажарнай бяспекі, не прайшла навучанне па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; будаўнічы аб'ект не ў поўнай меры забяспечаны спраўнымі першаснымі сродкамі пажаратушэння, пажарным інвентаром; адсутнічаюць знакі пажарнай бяспекі; не выконваецца супрацьпажарны рэжым (дапушчаецца бязладнае курэнне); для часовага электразабеспячэння выкарыстоўваюцца кабелі без гумовай ізаляцыі; частка вагон-бытовак не абсталявана працаздольнымі аўтаномнымі пажарнымі апавяшчальнікамі.

Апроч таго, праводзіліся праверкі ступені выканання папярэдніх прадпісанняў органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду, а менавіта:

**СУП "За Радзіму"** – з раней прапанаваных 38 мерапрыемстваў было выканана толькі 15 (39%).

**Філіял "Дарожна-эксплуатацыйнае упраўленне №35" РУП "Віцебскаўтадор"** – з раней прапанаваных 7 мерапрыемстваў было выканана толькі 3 (43 %).

Па выніках праверкі **"Занальны дзяржаўны архіў у г. Глыбокае"** была напісана даведка, бо ўсе малаважныя парушэнні былі ўхілены падчас правядзення праверкі.

***Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС.***

Энерганагляд інфармуе:

# Як правільна выбраць навагоднія гірлянды?

**Набліжаюцца навагоднія святы. На прадпрыемствах, у крамах, у дамах культуры, у дзіцячых садках і школах адбываецца падлучэнне навагодніх елак і ёлачных гірлянд, фасады грамадскіх будынкаў, вітрыны крам і вокны жылых дамоў пачынаюць зззяць рознакаляровымі агнямі.**

■ **А. Крывёнак,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Новы год – самае запальнае свята ў годзе, і не толькі па ўзроўні весялосці, але і па колькасці пажараў, якія здараюцца ў гэтыя дні. Гірлянды гараць як свечкі, прычым разам з елкай. А ваша гірлянда - бяспечная? Ці не атрымаецца так, што ў самы адказны момант ваша ёлачка не «запаліцца», а загарыцца?

Энерганагляд папярэджвае:

Гірлянда – электрапрыбор, які мае паслядоўнае падлучэнне лямпачак, шнур і вілку. Паміж лямпачкамі і вілкай павінен быць убудаваны адаптар, які паніжае напружанне ў ланцугу да бяспечна малога.

Выбар гірлянды трэба пачынаць не з вонкавага выгляду, а з чытання ўпакоўкі. На ёй пазначаны фірма-вытворца, назва вырабу і яго прызначэнне. А прызначэнне ў гірлянд бывае рознае: адны ўпрыгожваюць ўнутраны інтэр'ер, іншыя выкарыстоўваюцца на вуліцы, трэція мантуюцца на навагоднюю ёлку.

Ад прызначэння залежыць магутнасць спажывання энергіі. Гірлянда для елкі не павінна па магутнасці перавышаць 50 ват – гэтая лічба павінна быць пазначана на спецыяльным ярлычку на шнуры каля вілкі, на якой таксама паказваецца тып гірлянды, фірма-вытворца, напружанне сілкавання, агульная магутнасць гірлянды і тып лямпачак.

Провад гірлянды павінен мець сячэнне токаправодных жылаў не менш за 0,5 мм і тоўстую гнуткую ізаляцыю. Адлегласць ад апошняй лямпачкі ў ланцугу да вілкі павінна быць не менш за 1,5 м. Гэта для таго, каб, калі пачне гарэць шнур, паспець выратаваць саму ёлку ад узгарання! У камплекце абавязкова павінны быць запасныя лямпачкі. Калі ў ланцугу больш за 18 штук – запасных павінна быць як мінімум тры, калі менш – то дзве. І напружанне з магутнасцю ў запасных павінна быць тым жа, што і ў асноўных.

Абавязкова азнаёмцеся з сертыфікатам адпаведнасці якасці тавару. Яго вам абавязаны прад'явіць прадавец па першым патрабаванні. Уся інфармацыя ў сертыфікаце павінна адпавядаць інфармацыі на цэтліку гірлянды. Калі ў гірлянды маецца прылада, якая кіруе рэжымамі мігцення і музыкі, шукайце ў сертыфікаце спасылку на пратакол па электрамагнітнай сумяшчальнасці. Абавязкова праверце месцы злучэння кампанентаў гірлянды: злучэнне блока з правадамі, захаванасць ізаляцыі, надзейнасць гнёздаў і вілкі. Уключыце і праверце гірлянду на ўсіх рэжымах адразу ў краме, а дома, з марозу, не спяшайцеся падключаць яе – дайце гірляндзе сагрэцца.

У навагоднюю ноч старайцеся не пакідаць гірлянду без нагляду. Хоць яе рэсурс – каля 100 гадзін, але ад перападаў напружання ў сетцы, аплаўлення ізаляцыі і ўзгарання нагрэтай папяровай мішуры ад лямпачак ніхто не застрахаваны.

Асабістая пільнасць і выкананне элементарных правілаў электрабяспекі гарантуюць захаванне святочнага настрою!

Глыбоцкае МРА філіяла «Энерганагляд» віншуе Вас з надыходзячымі Калядамі і Новым Годам, жадае ўсім цудоўнага настрою, моцнага здароўя і здзяйснення ўсіх жаданняў!



# “Радзюкоўскія сустрэчы”

**У нядзелю, 6 снежня, у сельскім Доме культуры прайшла вечарына “Радзюкоўскія сустрэчы”, якая была прысвечана творчасці жыхаркі Радзюкоў Людміле Ардынскай.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*


Людміла Ардынская

Каб павіншаваць яе і парадаваць вяскоўцаў сваімі выступамі ў Доме культуры сабраліся сябры літаратурна-музычнага аб'яднання “Світанак”, у які ўваходзіць і сама спадарыня Людміла, творчыя калектывы “Купалінка”, “Груца”, “Душэўная ўтульнасць” з Шаркоўшчыны і дзіцячы калектыў радзюкоўскай школы. Дарэчы, глядзельная зала была занятая цалкам, што ў наш час не вельмі характэрна не тое што для вёскі, а нават для горада.

Ініцыятарам правядзення гэтай вечарыны выступіла сама паэтка. Вядома, ёй дапамагалі супрацоўнікі Дома культуры, бібліятэкі, школы, але асноўную працу па падрыхтоўцы гэтага мерапрыемства зрабіла сама Людміла Ардынская. Па яе словах, яна хацела падараваць сваім землякам крыху святочнага настрою, што вельмі важна ў наш час. І гэта ёй удалося!

Пісаць вершы і цікавіцца фальклорам яна стала яшчэ ў юнацтве, але друкавацца стала ўжо ў сталым узросце. І тым не менш, за апошнія гады яна напісала шмат не толькі вершаў, але і артыкулаў на розныя грамадскія тэмы. Часта яна дасылае артыкулы і ў нашу газету.

– Да мяне маленькай крынічкай стала прабівацца вось гэтая паэзія і ўсё больш бурліцца. Гэта не маленькая ступень у маёй творчасці і, калі мне Бог дасць натхненне, я буду прадаўжаць. Як у маім вершы ёсць: «Песню прадкаў буду прадаўжаць». Я цаню і шаную, і люблю, і ганаруся сваёй роднай мовай, якая для мяне і ёсць душа народа, - кажа Людміла Іосіфаўна.

– У мяне тры радзімы, – працягвае яна, – гэта Полаччына, адкуль родам мае бацькі, Глыбоччына, дзе я нарадзілася, і Шаркоўшчына, дзе я пражыла большую частку свайго жыцця.

*Прыдзісненшчына —*
*трэцяя радзіма,*
*Ты мне, як маці,*
*шаркаўшчынская зямля,*
*У нялёгкі час лёс да цябе*
*закінуў,*
*Мяне сагрэла,*
*прытуліла, абняла.*
*Дала і хлеб, і дах, на*
*вершы ты натхніла,*
*І боль, і радасць ты са*
*мной пражыла.*
*Жыву я ўдзячная тром*
*маім радзімам,*
*Што па іх сцежках па*
*жыцці прайшла.*

Некалькі вершаў паэтка прысвяціла дубу, які расце непадалёк ад Дома культуры на беразе рэчкі Бярозаўка.

*Дзе панскі двор быў —*
*волат-дуб стаіць*
*У дазоры ля нястомнае*
*ракі.*
*Каронай узнёсся ўвысь,*
*вакол глядзіць,*
*Як вартавы, пільнуе*
*Радзюкі…*

Гэты дуб быў пасаджаны ў 1888 годзе ўладальнікам маёнтка Радзюкі Бароўскім у гонар нараджэння сына Вацлава. Зараз каля дуба стаіць адпаведная шыльда. Праўда, кіраўніцтва мясцовай гаспадаркі зрабіла пад сімвалам Радзюкоў туалет, які вельмі псуе ўражанне ад радзюкоўскай рэлііквіі. Ці то начальства так не паважае сваіх жанчын, што вымушаныя хадзіць зімой у такі не вельмі ўтульны будынак, ці яно так дбае аб каранёвай сістэме дуба, невядома...

Але вяртаемся да вечарыны. Тут чыталі вершы, гучалі песні, прычым шмат іх напісана на словы Людмілы Ардынскай, частушкі, на сцэне скакалі «Лявоніху». Было шмат народнага гумару.

Гледзячы па рэакцыі гледачоў, мерапрыемства ўсім спадабалася. Былі гледачы нават з Шаркоўшчыны.

Кіраўнік літаратурна-музычнага аб'яднання “Світанак” Кацярына Сосна адзначыла, што Людміла ўлілася ў іх калектыў адносна нядаўна, але стала ўжо адным з самых актыўных сяброў.

У “Радзюкоўскіх сустрэчах” прымалі ўдзел творчыя калектывы “Купалінка” з Каўшэлева, “Груца” з Радзюкоў, “Душэўная ўтульнасць” з Шаркоўшчыны і дзіцячы калектыў радзюкоўскай школы.

Ада Райчонак, якая прыехала на вечарыну з Германавічаў, звярнула ўвагу радзюкоўцаў, што побач з імі жыве вельмі таленавіты чалавек, і яны павінны гэтым ганарыцца. Прысутным было цікава даведацца, што спадарыня Людміла нават пераклала некалькі вершаў з рускай мовы на нямецкую.

А яшчэ, дзякуючы яе намаганням, у Радзюках нядаўна быў устаноўлены помнік ахвярам гета.



**Знакаміты дуб і шыльда каля яго.**




**На сцэне «Лявоніха» ад «Купалінкі».**

# Паляванне на куніцу

■ **Валерый Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

**Паляванне на куніцу, магчыма, саступае ў рэйтынгу папулярнасці такім паляванням, як паляванне на лася, гусей або любому іншаму паляванню. Але гэты маленькі звярок можа даставіць нямала задавальнення азартнаму паляўнічаму.**

У залежнасці ад месца палявання змяняюцца і яго ўмовы. На вынік працэсу ўплывае кожная дробязь, пачынаючы ад ландшафту і заканчваючы пародамі дрэў, якія растуць у выбраных паляўнічых угоддзях. Прасцей за ўсё куніцу здабываць у лісцявых лясах. Яловыя зараснікі даюць жывёле занадта шмат магчымасцяў схавацца, а лясы сасновыя празрыстыя. Дзічына бачыць паляўнічага здалёк і не дае яму да сябе наблізіцца.

Куніца даволі ахвотна наведвае «верхнія паверхі» свайго арэала пасялення. Там яна шукае ежу і робіць яе запасы, бытае сляды і сыходзіць ад небяспекі. Перасоўваючыся то па зямлі, то па дрэвах, куніца атрымлівае велізарны прастор для манеўраў і становіцца вельмі няпростай мэтай для паляўнічага.

Вызначыць наяўнасць куніцы ў асеннім лесе прасцей за ўсё па наяўнасці яе памёту на адкрытых месцах. Гэты звярок часцяком перасякае адкрытую мясцовасць па нахільных або паваленых дрэвах, адзначаючы тэрыторыю сваім памётам. Такім чынам, маладняк пазначае шляхі свайго перамяшчэння, а дарослыя асобіны замацоўваюць за сабой тэрыторыю. Такія «сцежкі» трэба запомніць і арыентавацца на іх пры паляванні. Куніца не схільная мяняць свае маршруты на працягу аднаго асенне-зімовага сезону. А часам прытрымліваецца іх і па некалькі гадоў.

Багацце куніцыных «сцежак» сведчыць аб блізкасці вывадкавага гнязда або дупла. Маладыя куніцы часта наведваюць знаёмыя месцы. Таму выяўленне такой хованкі толькі на руку паляўнічаму. Верагоднасць таго, што жывёла вернецца ў гэтае месца, вельмі вялікая.



І калі ўсталяваць непадалёк пастку, то неўзабаве ў яе абавязкова патрапіць гэты шустры звярок. Пры правільным размяшчэнні пастак у ваколіцах аднаго гнязда можна паляваць увесь сезон з даволі высокай эфектыўнасцю.

У восеньскі перыяд куніца шмат перамяшчаецца па лесе, робячы запасы ежы на зіму. Паколькі пражытак у гэты перыяд жывёле знайсці дастаткова проста, многія куніцы, асабліва маладняк, страчваюць пільнасць і ахвотна правяраюць пакінутыя паляўнічым прынады. Найлепшымі прынадамі лічацца знятыя «панчохай» скуркі дробных жывёл, набітыя трыбухамі. Большай эфектыўнасцю валодаюць прыпсаваныя прынады, калі пах ад іх распаўсюджваецца досыць далёка. Можна выкарыстоўваць і тушкі дробных птушак: курапатак або рабчыкаў. Такую тушку трэба разрэзаць да вантробаў і раскрыць, каб пах падалі мог зацікавіць аб'ект палявання.

З выпадзеннем снегу куніца можа скараціць сваю актыўнасць, і калі ёсць «схрон», то на зямлю звярок можа не спускацца і пару тыдняў. Вылічыць такую куніцу можна па «рону» або «сорке» – сухая іголца, кавалачкі кары і снег, збіты звярком з галінак пры перамяшчэнні. Па «рону» можна вызначыць кірунак руху і месца пражывання куніцы, пасля чаго выманіць або спудзіць звярка, каб мець магчымасць падстрэліць яго. Варта памятаць, што куніца, якая ўцякае, прападае з віду ў лічаныя імгненні. Таму страляць трэба адразу, як толькі з'яўляецца такая магчымасць. З сабакам, які добра працуе па куніцы, задача істотна спрашчаецца. Але такія сабакі сустракаюцца даволі рэдка, і мець такога чацвераногага напарніка можна лічыць вялікім поспехам.

Варта нагадаць, што здабыча куніцы дазволена толькі па паляўнічых пуцёўках, што выдаюцца карыстальнікамі паляўнічых угоддзяў у месцах, указаных у паляўнічай пуцёўцы, з выкарыстаннем прылад палявання, дазволеных Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. У выпадку незаконнай здабычы дадзенага звярка шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, складзе 35 базавых велічынь, або 6.300.000 рублёў і штраф ад 20 да 50 базавых велічынь.

Так, 5 снежня гэтага года двое грамадзян Пастаўскага раёна пры правядзенні палявання на пушныя віды дзічыны (ненармаваныя) былі затрыманыя з патронамі, забяспечанымі кулямі і карцеччу. У дачыненні да гэтых грамадзян складзены пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні па ч.1 арт.15.37 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях Рэспублікі Беларусь, за што пагражае штраф у памеры да 50 базавых велічынь, пазбаўленне спецыяльнага права і канфіскацыя прыладаў палявання.

**Паважаныя паляўнічыя, выконвайце Правілы і ўдалага ўсім палявання!**

***

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 8905528, МТС 2494549, МТС 6456678.**

# За 15 карасёў можна атрымаць тры гады

**З дня ўступленне ў дзеянне новых Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства больш за год, практычна ва ўсіх рэспубліканскіх СМІ апублікаваны дзясяткі тлумачальных артыкулаў, аднак штодня ў Глыбоцкую міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету з пытаннямі звяртаюцца рыбаловы аматары. Лічым неабходным яшчэ раз нагадаць некаторыя змены.**

■ **Аляксандр Федзічкін,** *намеснік начальніка Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, якія ўступілі ў дзеянне з 26 чэрвеня 2014 года, значна адрозніваюцца ад тых, што дзейнічалі раней, як па аматарскаму рыбалоўству, так і па прамысловаму.

Так, права на бясплатнае аматарскае рыбалоўства спосабамі, указанымі ў пункце 72 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства (далей Правілаў):

- ■ лоўля рыбы з ужываннем прылад аматарскага рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў ад 6 да 10 штук на рыбалова;
- ■ лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі; пры лоўлі рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі дазваляецца выкарыстанне адной прынады, або прынады на аднаго рыбалова;
- ■ падводнае паляванне;

маюць рыбаловы, якія з'яўляюцца членамі рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў». Пералік вадаёмаў, на якіх лоўля вышэйазначанымі спосабамі забаронена, зацвярджаецца Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання па ўзгадненню з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь.

Асаблівы рэжым рыбалоўства уведзены на возеры Доўгае і Белае (паблізу в. Івесь), якія з'яўляюцца заказнікамі рэспубліканскага значэння; на дадзеных вадаёмах забаронена падводнае паляванне і выкарыстанне лодак з маторамі любых відаў.




На ўсіх вадаёмах дазволена лоўля рыбы дазволенымі прыладамі рыбалоўства з ужываннем колькасці кручкоў да 5 штук (наяўнасць членскага білета «БТПР» не абавязкова), за выключэннем перыяду абмежаванняў і забароны.

У перыяд забароны дазваляецца лоўля рыбы з выкарыстаннем толькі адной вуды з адным кручком або спінінгам у светлы час сутак, пры гэтым тэрміны забароны адрозніваюцца па абласцях, у Віцебскай вобласці забарона пачынаецца з 10 красавіка па 8 чэрвеня;

- ■ лоўля шчупака забаронены па Віцебскай вобласці з 9 сакавіка па 25 красавіка,
- ■ судака з 15 красавіка па 30 траўня,
- ■ сама звычайнага з 31 траўня па 1 ліпеня, з 1 лістапада па 31 сакавіка;
- ■ Мянтуза звычайнага з 25 снежня па 28 лютага.

Зменена прамысловая мера на асобныя віды рыбы пры аматарскім і прамысловым рыбалоўстве.

Так, дазволены да лоўлі прамысловы памер:

- ● шчупака – 40 см;
- ● язя – 25 см;
- ● ліня – 22 см;
- ● судака – 40 см;
- ● карпа – 20 см;
- ● сама – 70 см;
- ● мянтуза – 36 см;
- ● галаўня – 25 см.

За незаконную здабычу рыбы забароненымі прыладамі і спосабамі рыбалоўства значна павялічаны таксы для вызначэння памеру кампенсацыі шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю фізічнымі і юрыдычнымі асобамі.

Так, за незаконную здабычу асобных відаў рыб сума нанесенай шкоды складае, напрыклад:

- ■ шчупак – 3 базавых велічыні, або 450 тысяч рублёў;
- ■ карп – 6 базавых велічынь, або 900 тысяч рублёў;
- ■ лінь – 6 базавых велічынь, або 900 тысяч рублёў;
- ■ карась залаты – 6 базавых велічынь, або 900 тысяч рублёў;
- ■ галавень – 9 базавых велічынь, або 1 млн. 350 тысяч рублёў.

Усе таксы за незаконны вылаў рыбы павялічаны ў 3-5 разоў, аматарам палавіць рыбу сеткамі ці іншымі забароненымі прыладамі і спосабамі неабходна добра падумаць, перш чым ісці на рыбалку. Пры гэтым сума нанесенай шкоды, з якой надыходзіць крымінальная адказнасць, складае 100 базавых велічынь. Нескладана палічыць, што за незаконны вылаў 15 асобін ліня, карпа, карася залатога наступіць крымінальная адказнасць, якая прадугледжвае максімальнае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 3 гадоў.

У дзеючыя Правілы ўнесены шэраг істотных зменаў, якія рыбаловы-аматары абавязаны ведаць. Забаронена выкідванне смецця, а за выяўленае побач з рыбаком смецце нясе адказнасць той грамадзянін, які быў затрыманы на месцы. Усе кружкі, сцяжкі, жэрліцы, стаўкі павінны быць падпісаны, і лоўлю імі павінен ажыццяўляць толькі той грамадзянін, хто паказаны на прыладах рыбалоўства, тэрмін дзеяння білета рыбалова павінен быць своечасова падоўжаны.

Паважаныя рыбаловы-аматары, уважліва чытайце Правілы рыбалоўства, каб не стаць іх парушальнікам.

***

**Па ўсіх пытаннях Вы можаце звярнуцца ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю па тэлефонах: 8-02156-28670, 28030, маб. 897-23-02, 890-55-28, 645-66-78, 249-45-49.**

## МНС інфармуе

**на 15.12.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**

Пажараў – 807;

Гібель людзей – 93, з іх 3 дзяцей;

**Глыбоцкі раён:**

Пажараў – 31;

Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;

